**А. Караленка**




**(КАЗКА)**

Месяц-пастушок, залаты ражок, на небе баранчыкаў пасе. А баранчыкі не простыя, а срэбныя, з крыштальнымі капыткамі, якія ўначы блакітнымі агеньчыкамі гараць. Плыве сярод зорачак-баранчыкаў Месяц, іграе для іх у сваю залатую жалейку, у статак збірае.

Сустрэліся неяк Сонца з Месяцам на небе.

— Дазволь мне, дружа пастушок, прыгледзець за тваімі баранчыкамі.

— Што ты, Сонца чырвонае, вельмі ж ты хутка па небе ходзіш і яркім святлом мой статак асляпляеш. Яны — так і глядзі — разбягуцца. Займайся лепш сваімі справамі, я сам як-небудзь за імі прыгледжу, гэта больш надзейна будзе.

Раззлавалася Сонейка яснае, тварам пацямнела:

— Я, Месяц, усім шлях асвятляю, сваім цяплом саграваю, а ты са мною і гаварыць не хочаш. Ды без мяне — вакол будзе цемра.

Стала Сонца промнямі бліскаць, вочы Месяцу сляпіць. Перапалохаўся Месяц, ды як кінецца ўцякаць. І схаваўся за круглую Зямлю. А без пастушка і ўсе зорачкі-баранчыкі па небе паразбягаліся.

Праходзяць суткі, другія, Масяц на небе не паказваецца. Але потым надакучыла яму хавацца. І вось аднойчы просіць ён Зямлю:

— Паслухай ты мяне, Зямля-прыгажуня, хачу я з чырвоным Сонцам памірыцца. Не магу я без работы, не магу хавацца за тваёй спіной.

— Добра, — згадзілася Зямля, — паміру я вас, толькі каб не сварыліся больш.

І паклікала блакітная Зямля да сябе ў госці Сонца.

— Удваіх вы на небе робіце кожны сваю справу. Ты, Сонца чырвонае, мяне, Зямлю, саграваеш, у зелень лясоў апранаеш. Без цябе мне жыцця няма. Стала б я ўся ледзяной, каб не ты. Толькі не трэба табе перавагу сваю ўсім паказваць. І ты, Месяц-пастушок, паслухай мяне. Ты пакрыўдзіў Сонца чырвонае, і словы твае былі насмешлівымі. А трэба было проста Сонцу растлумачыць, што не можаш ты свой статак камунебудзь даручыць. Ты, Месяц, таксама карысць прыносіш і раўнавагу нябесную захоўваеш. Мяне ў начы асвятляеш, прылівы і адлівы акіянскія ствараеш. Так што кожны ў сваёй справе добры, і не трэба вам паміж сабою сварыцца.

Заіскрылася адразу Сонца, запалала, і яркая зара над Зямлёю занялася. А Месяц-пастушок зайграў у сваю залатую жалейку, стаў зорачкі на небе збіраць.

І больш ніколі не сварыліся Сонца з Месяцам.

# ЧЫТАЕМ і пішам

# Ё Дз

Ё Ё Ё Ё Ё Ё Ё Ё Ё Ё Ё Ё

ё ё ё ё ёд ён маё тваё сваё

Ёсць у Міхася маленькі брат.

Міхась чытае яму цікавыя вершы.

Дз дз Дз дз Дз Дз Дз

дзе дзень дзіця дзверы

тыдзень гадзіннік Дзвіна

Мы дзякуем Радзіме за наша шчаслівае дзяцінства.

**Д. Слаўковіч**




Правільна яго завуць Кастусь. Але чамусьці ўсе прывыклі яго называць Коцька. Сам ён таксама да гэтага прывык.

Сёння Коцька ў двары гуляе. Ён стаіць каля ліпкі і драцяной шабляй сячэ яе зялёны пасынак.

Шах! Шах! — са свістам рассякае паветра шабля. Але пасынак не дужа паддаецца.

На другім паверсе дома, што стаіць насупраць, з трэскам расчынілася акно.

Коцька перастаў секчы шабляй пасынак і чакае, хто высунецца з акна. Калі Віця, дык, значыцца, яго пакінулі сядзець дома і пісаць у сшытку загагулінкі. Калі ж бабка Ціна, дык зараз будзе на ўвесь двор выгаворваць: „Вырас, як грабільна, а да школы не рыхтуешся і іншым не даеш!“

У акне паказваецца галава Віці.

— Пакінь, — кажа ён, — не псуй дрэва.

— Гэта не дрэва, Цмок паганы.

— Цмок?

— Ага. Пасынак завецца.

— Калі Цмок, тады і я бягу. Удвух біцца з ім будзем!

Удвух куды спрытней ваяваць з Цмокам. Нават з самым паганым, Пасынкам.

Спачатку секлі Коцькінай шабляй па чарзе. Потым Віця кіёк знайшоў. Пачалі біць у дзве рукі. „Цмок“ не вытрымаў, адламаўся.

— Ёсць! — радасна закрычаў Коцька. — Давай і Цуда-Юда заадно пераможам!

— Якое Цуда-Юда? — не зразумеў Віця.

— На якім Цмок вырас.

— Дрэўца?

— Не дрэўца гэта, Цуда-Юда страшэннае! — закрычаў Коцька і секанула драцянкай па малодшай ліпцы. Але было высакавата і шабля не дастала да макаўкі.

— Памагай, — скамандаваў Коцька.

Віця пачаў гнуць ствáліну, каб было спрытней секчы „галаву“ Цуду-Юду. Нагнуў, Коцька шабляй узмахнуў. Калі Віця выпусціў ствáліну з рук, яна хістанулася і балюча сцебанула галінкамі Коцьку па носе.

— Ах ты, Цуда-Юда праклятае! Яшчэ біцца будзеш? — узлаваўся Коцька. — Вось табе!

Ён схапіўся за танклявую ліпку, пачаў яе згінаць. Віця кінуўся памагаць яму.

Хруп! — не вытрымала тонкая ствáлінка.

— Ура! — закрычаў Коцька. — Перамаглі!

Віця прамаўчаў. Яму крычаць перахацелася. І перамога не радавала. Буркнуў толькі:

— Усё. Расці не будзе.

Коцька здзіўлена паглядзеў на яго, на ліпку і раптам спалохана азірнуўся:

— Уцякайма!

Яны ўцяклі з двара на вуліцу, адтуль у парк. Селі на лаўцы ў самым глухім закутку. Пад старымі ліпамі. Тут было ціха, халаднавата, крыху вільготна.

— Шукай-расшукай — не знойдзеш нас! — радаваўся Коцька.

— А калі дворнічыха цётка Дуся міліцыянера пакліча?

— І міліцыянер не знойдзе. З двара нават і парку не відаць. А мы ж у самым куточку.

— А як сабаку-сышчыка прывядуць?

— Сабаку? — Коцька на момант разгубіўся. — Не прывядуць сабаку. Сабакамі разбойнікаў ды зладзеяў ловяць.

— А мы хто?

— Як гэта хто? — здзівіўся Коцька і чамусьці пачырванеў. — Мы — людзі.

— Людзі садзяць дрэвы, а мы зламалі.

— Ну няхай вядуць таго сышчыка. Хоць сто! Усё роўна нас не знойдуць.

— Чаму?



— Бо мы праз дарогу пераходзілі, а там машыны — жыг! жыг! Даўно коламі сляды зацерлі.

Пасядзелі. Памаўчалі.

Віця ўзняў галаву, зірнуў на старыя ліпы і прамовіў:

— Зламаў бы хто іх яшчэ маленькія, не было б нам зараз дзе хавацца.

— Ну і што? Я яшчэ адну схованку ведаю.

— Ліпы гэтыя і вайну, мусіць, бачылі. Бо старыя дужа...

Коцька зірнуў нейкімі ашалелымі вачыма на ліпы. Усхапіўся з лаўкі, шпурнуў убок шаблю:

— Пайшлі!

— Куды?

— Куды? Куды? Да дворнічыхі! Прызнавацца.

У Віці ажно дух заняло: і страшна і радасна. Ускочыў:

— Пайшлі!

Цётка Дуся была дома.

— Чаго прыйшлі? — не дужа ветліва сустрэла яна гасцей. — Калі зноў па дошку на розныя ракеты-штакеты, дык і не думайце. Не дам.

— Мы не па дошку...

— Ліпка...

— Што ліпка? Не ваш клопат яна. Пасадзілі, прынялася, няхай расце.

— Не вырасце.

— Чаму гэта не вырасце?

— Бо мы... Зламалі...

— Вы?! Ліпку?! Ах, паганцы!

— Мы штраф заплацім, — ціхенька прамовіў Віця. — Грошы ў скарбонцы ёсць.

— Грошы? Вы іх зараблялі? Не вашы гэта грошы, бацькоў. А тут самім трэба разлічвацца.

— А як разлічвацца? — нясмела спытаў Віця.

— А так. Кожны дзень, пад вечар, будзеце вунь тыя кусточкі зялёныя даглядаць. Паліваць, праполваць, ахоўваць. А ўвосень на месцы зламанай ліпкі новую пасадзіце. Самі.

* ※ *

Надышла восень. Коцька з Віцем у школу пайшлі, у першы клас.

Аднойчы аб'явілі ў двары нядзельнік. Усе жыхары выйшлі на яго. Хто ямкі капаў, а хто на машыне па дрэўцы паехаў. Прывезлі ліпкі. Не дзве, а два дзесяткі.

Коцька з Віцем працавалі разам з усімі.

 ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

## ХАХУЛЯ

У Чэрыкаў (на Беларусі) прыляцеў з Варонежа самалёт. З самалёта хутка выгрузілі нейкія фанерныя скрынкі. Грузавік са скрынкамі паехаў чамусьці не ў горад, а па дарозе да ракі.

— Ну, пасажыры, вылазьце! — пажартаваў нехта. — Прыехалі!

З адкрытых скрынак выскачылі, апярэджваючы адзін аднаго, невялікія, дзіўнага выгляду звяркі. Усе яны са злосным піскам кінуліся ў ваду.

Звяркі, відаць, былі вельмі галодныя, бо адразу пачалі шукаць у вадзе здабычу. З прагнасцю накідваліся яны на ракавінкі, на розных вадзяных насякомых, не звяртаючы ўвагі на людзей, якія стаялі на беразе.

Але ж і дзіўны быў выгляд у звярка! Сваёю знешнасцю ён нагадваў нейкі фантастычны персанаж старадаўняй казкі. Ніхто з прысутных ніколі яшчэ не бачыў такой недарэчнай істоты.

На звярку было густое і бліскучае карычневае футра з доўгімі восцевымі валасамі, цёмнае на спіне, святлейшае на баках і зусім светлае, серабрыстае на горле і брушку. Заднія лапы ў звярка былі выкручаны вонкі, і гэта перашкаджала звярку рушацца па зямлі. Але самым дзіўным была ў яго галава. Вочы — зусім маленькія, ледзь прыкметныя, а нос пераходзіў у даволі доўгі хабаток, які безупынна варушыўся, нюхаючы паветра.

— Хто ж гэта такія? — спытаўся ў прыезджых мясцовы жыхар.

— Хахуля, — коратка адказаў адзін з іх. — Ці не чулі пра такіх?

— Ніколі не чуў, — прызнаўся чалавек.

— Па-руску — „выхухоль“, — дадаў другі прыезджы. — Мы прывезлі іх з Хапра, прытока Дона.

Адбылося гэта ў кастрычніку 1955 года.

Калісьці хахулі вяліся ў поймах многіх рэк Еўропы, у тым ліку і на Беларусі. Футра хахулі цанілася заўсёды вельмі высока, і гэта прывяло амаль да поўнага знішчэння каштоўнага звярка.

У 1920 годзе Савецкі ўрад апублікаваў дэкрэт аб забароне палявання на хахулю. Гэтае мерапрыемства выратавала звярка ад канчатковай гібелі.

...Непрыкметна надышла зіма. Балоты засыпала снегам. Возера пакрылася тонкім лядком. Але нашых звяркоў гэта мала непакоіла. Зімою яны ўмелі здабываць сабе корм і пад лёдам. Пагібель ім магла пагражаць толькі тады, калі б вадаём прамёрз да дна.

З нашымі хахулямі нічога благога не здарылася. Перазімавалі яны разам, а ў канцы вясны 1956 года каля карча ля ўваходу ў нару плавалі ўжо маладыя хахулянаты.



ЖВАВА



1. Вось прый_шлі зі_ мо_вы сцю_жы, на два_рэ за_



_мерз_лі лу_жы; ска_ ча, ска_ ча ве_ра_бей,



ён склі_ка_ е ўсіх дзя_цей: „Ціў-ціў-ціў - ціў-



ціў-ціў- ціў," — ён склі_ка_ е ўсіх дзя_цей.

# ВЕРАБЕЙЧЫК

**(Беларуская народная песня)**

*Вось прыйшлі зімовы сцюжы,*
*На дварэ замерзлі лужы;*
*Скача, скача верабей,*
*Ён склікае ўсіх дзяцей:*
*„Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,“ —*
*Ён склікае ўсіх дзяцей.*

*Да дзяцей ён просьбу мае*
*І чырыкае, як знае:*
*„Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,*
*Дайце есці — я ледзь жыў!*
*Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,*
*Дайце есці — я ледзь жыў!*

*Есці многа мне не трэба, —*
*Трохі зерня, трохі хлеба*
*Кіньце, дзеткі, на зямлю,*
*Я вам песеньку спяю:*
*— Ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў-ціў,*
*Я вам песеньку спяю!“*




* ✲ *

СССР, 344020, г. Ростов н/Д., 2 пос. Орджоникидзе, ул. Конституционная, 63/64, кв. 107. Лене Великородовой. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

СССР, 344074, г. Ростов н/Д., 2-ой Одесский пер., д. 3, кв. 1. Самариной Марине. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

СССР, 344020, г. Ростов н. Д., ул. Конституционная, д. 58/62, кв. 25. Лычкиной Елене. Дзяўчынка вучыцца ў дзевятым класе.

 **Пішуць школьнікі** 

## ШКЛЯНКА ГАРАЧАГА МАЛАКА

Дарагая „Зорка“! Нядаўна ў нашу школу прыязджалі прадстаўнікі з малачарні, каб уручыць нам узнагароду за I месца ў акцыі „Шклянка гарачага малака“. Гэтую ўзнагароду мы атрымалі не ўпершыню. Шклянка гарачага малака ў нашай школе стала ўжо традыцыяй. Ад 1972 года з году ў год у нашай школе вучні атрымліваюць малако, і ў гэтай акцыі мы заўсёды займаем першыя месцы.

Але, як нам здаецца, перадавыя месцы — гэта не галоўнае, ды і ўзнагароды не такія важныя. Найважнейшае — гэта тое, што кожны вучань атрымлівае штодзень шклянку гарачага малака — вельмі вартаснага і пажыўнага, патрэбнага маладым арганізмам. А да таго яшчэ булка ці пячэнне — і вось ужо другое снеданне. У нашай школе малако любяць і п’юць усе вучні.

„Зорачка“, мы хочам прасіць цябе, каб ты заахвоціла вучняў з іншых школ піць гарачае малако на другое снеданне і ўдзельнічаць у гэтай акцыі.

Паверце нам, вучні, што гэта сапраўды вельмі карысная рэч.

**Члены гуртка**
**беларускай мовы**
**са школы ў Арэшкаве.**

##  АДГАДАНКА 

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 | 6 | 6 | 6 |
| 8 | 8 | 8 | 8 |
| 10 | 10 | 10 | 10 |
| 12 | 12 | 12 | 12 |



Лікі з левага квадрата ўпішы ў клеткі правага квадрата так, каб, па-першае, у знешніх клетках у кожным напрамку вынік дадавання быў аднолькавы, і, па-другое, сума лікаў, упісаных у цэнтральныя чатыры клеткі, была такая самая, як у знешніх клетках.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**